РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА: БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, ШАРКОЎШЧЫНА

# ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ

Жыве Беларусь!

Wolne Glebokie

Free Hlybokaye

Дык жа гудам! На Беларусі -- беларусы жывуць!
Янка Купала.

Выдаецца са снежня 1994 года.
№25 (57), лістапад, 2000 года.
Кошт па дамове



**Да кастрычніцкіх угодкаў**

Не магу зразумець той далёкі,
Той крывавы сямнаццаты год:
Незагойныя болі апёкі
І да сёння трывае народ...

Правадыр заклікаў праз напасці,
Усіх наперад да светлага веў.
А навошта нам горкае шчасце
На магілах нашых дзядоў?

Зараз кажуць: «Памылка, спазналі.
Лад зламаем, збудуем ізноў».
А мо спынемся, паразважаем,
На магілах нашых дзядоў?

Ці патрэбны нам зноў ГУЛагі?
Ці патрэбны нам прывіды зноў?
Мо не тое мы шчасце шукаем?
Запытаемся ў нашых дзядоў.

Хопіць! Зведалі розныя мукі
Можа спынім правадыроў?
Не раскаяцца б нашым унукам
На магілах памерлых дзядоў.

С. Табола,
в. Заазерцы, Шаркоўшчынскі раён

## Чарговы Сойм ГА БНФ «Адраджэньне»

**4 лістапада ў Мінску адбыўся чарговы Сойм Грамадскага аб'яднання БНФ «Адраджэньне».**

На пачатку былі разгледжаны арганізацыйныя пытанні партыі БНФ і ГА БНФ «Адраджэньне». Затым адбылася пашыраная Соймавая канферэнцыя, на якую акрамя сяброў Сойму былі запрошаны кіраўнікі структур БНФ з усёй краіны. Асноўнае пытанне, якое было разгледжана на канферэнцыі гэта «Стратэгія і тактыка БНФ у кааліцыі на прэзідэнцкія выбары».

Ю. Хадыка і В. Івашкевіч, намеснікі старшыні БНФ, выказалі «Прапановы да плана вылучэння адзінага кандыдата ад дэмакратычных сіл на прэзідэнцкія выбары». Ул. Кобец -- «Тэхналогіі перадвыбарчай кампаніі»; А. Астроўскі -- «Стратэгія нашай дзейнасці на бліжэйшы год»; І. Саверчанка -- «Крытэрыі прыдатнага для БНФ адзінага кандыдата»; старшыня БНФ Вінцук Вячорка выказаў свае меркаванні накошт «Кааліцыйнага кантэксту стратэгіі на 2001 год».

Персанальна, пакуль, адзіны кандыдат не называецца. Імя яго будзе аб'яўлена пад час абвяшчэння прэзідэнцкіх выбараў, дата якіх павінна быць прызначана да 27 чэрвеня 2001 года, а адбыцца яны павінны не пазней 27 верасня.

Зрэшты, выказвалася меркаванне, што да прэзідэнцкіх выбараў беларусы, магчыма, і не дойдуць, бо ўноў абраны парламент можа ўнесці змены ў Канстытуцыю, згодна якіх кіраўнік дзяржавы будзе абірацца парламентам.

*Л. Шпак*

## Будзе забастоўка?

Па рашэнню Каардынацыйнай рады прадпрымальнікаў 23 лістапада 2000 года па ўсёй Беларусі адбудзецца агульнацыянальная забастоўка прыватных прадпрымальнікаў, якія гадлююць на рынках. Гэтая акцыя выклікана спробай увядзення рэжымам неабгрунтавана высокіх мытных пошлін і падатку на дададзеную вартасць на тавары, якія ўвозяцца з Расіі Паводле падлікаў «эканамістаў» рэжыму кожны прадпрымальнік павінен будзе плаціць 200$ у месяц толькі мытных пошлін, не кажучы ўжо пра падаткі і іншыя паборы за права на працу.

Гэтае свавольства рэжыму давядзецца аплочваць і пакупнікам, бо плаціць прадпрымальнікі вымушаны будуць закласці новыя «падаткі» ў кошты сваіх тавараў.

*М. Самавіты*

## Юбілей на фоне цяжкасцей

**Напярэдадні святкавання 1000-годдзя з дня заснавання Дзісны Мёрскага раёна тут увялі новую АТС на 240 тэлефонных нумароў.**

Амаль адначасова спыніла работу паромная пераправа праз заходнюю Дзвіну -- лопнуў жалезны трос. Цяпер, каб пераправіцца праз раку, людзі наймаюць лодкі, а вадзіцелі едуць аж на Полацк.

Няма парадку і ў адзіным у Дзісне кафе «Дзвіна» -- там працякае дах. Па гэтай прычыне прыйшлося адключыць электрычнасць. Не працуе каналізацыя. Дарэчы, яшчэ з вясны ў Мёрах не ходзіць гарадскі транспарт -- з фінансамі цяжка.

*У. Шытаў*




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» ў Глыбокім 1100**

**45** маладых педагогаў, якія скончылі ВНУ сёлета, не прыехалі на месца сваёй працы ў Гомельскую вобласць.

**Працаўнікі** калгаса «Дружба» Пастаўскага раёна атрымалі сёлета з кожнага гектара ўраджайнасць зерневых 40 цэнтнераў.

**Ад** 10 да 15 тысяч чалавек прынялі ўдзел у шэсці апазіцыі «Марш свабоды -- 2000», якое адбылося ў Мінску 1 кастрычніка.

**Камітэт** па міжнародных справах Сената ЗША зацвердзіў 8 верасня кандыдатуру Майкла Козака на пасаду пасла Злучаных Штатаў у Беларусі. Дагэтуль ён прадстаўляў ЗША на Кубе. 21 кастрычніка новы пасол пачне працаваць у Беларусі.

**На** 1 студзеня 2000 года колькасць падджылых людзей старэй 60 год у Беларусі перавысіла колькасць дзяцей ва ўзросце да 15 год.

**У** міністэрстве замежных спраў Францыі заявілі, што ў сувязі з перамогай на выбарах у Югаславіі Каштуніцы краіны Еўрапейскага Саюза павінны адмяніць эканамічныя санкцыі супраць Югаславіі.

**Ірак** больш не будзе выкарыстоўваць амерыканскі долар у камерцыйных пагадненнях.

**Замарожанае** цела дагістарычнага чалавека, якое знайшлі 10 год назад у ледніку ў Італіі, будзе размарожана з мэтай даследвання. Цела, ўзрост якога каля 5300 год, было адшукана на вышыні больш 3 тысяч метраў над узроўнем мора.

**За** 9 сёлетніх месяцаў беларусы спажылі гарэлкі на 21% меней, чым летась: па 15 бутэлек на кожнага. А вось віна і піва сталі піць болей -- на 25% і на 6% адпаведна.

**З** 1.XI. 2000 г. павялічылася пенсія. Мінімальная ўзрасла на 13,6% і склала трохі больш за 19 тысяч рублёў. Максімальная пенсія -- прыблізілася да 50 тысяч рублёў.

**У Докшыцкім раёне размешчаны біясферны заказнік, некалькі гідралагічных і батанічных заказнікаў рэспубліканскага і абласнога значэння.**

## Чым мы дыхаем?

Мо таму і няма тут буйных заводаў. І ўсё ж пагрозу атмасферы складаюць як аўтамабілі, так і кацельні.

З пачаткам ацяпляльнага сезона іх працуе ў раёне ажно 90. Часопіс «За рулём» прыводзіць такія лічбы: у карбюратарным рухавіку поўнасцю згарае толькі 45% паліва, у дызельным -- і таго менш. Выкінутыя ў паветра за год 5385 тон шкодных аксідаў, вугляродаў і окіслаў азоту, якімі мы дыхаем, гэта вынік «калёснай» цывілізацыі

*У. Шык*

## Жыві і памятай

Вядомы майстар-мастак, сябар суполкі «Пагоня» Алесь Цыркуноў прамяняў шумны Мінск на ціхую вёсачку Чэхі, якая зацёрлася на стыку Пастаўскага і Мядзельскага раёнаў. Нават тут ён знайшоў славутасці -- магілу патрыёта Беларусі і Польшчы мінулага стагоддзя Флярыяна Даноўскага. Гісторыкам і краязнаўцам гэта імя адразу нагадвае яго мужнага сябра Кастуся Каліноўскага. Даноўскі двойчы ўдзельнічаў у паўстаннях супраць царскага самадзяржаўя, за што трапляў у ссылкі. У 1902 годзе ён быў пахаваны ў маляўнічым куточку ля вёсачкі Чэхі. Алесь Цыркуноў шукае сродкі, каб акультурыць месца ля магілы і годна ўшанаваць справы патрыёта.

*У. Шык*

Фота Ул. Скрабатуна



## З печы -- на прылавак

Побач з прахадной Шаркоўшчынскага хлебазавода адчыніўся гандлёвы павільён «Гарачы хлеб». Некалькі разоў на дзень усе жадаючыя могуць набыць тут цёплыя боханы і булкі, кандытарскія вырабы. Акрамя хлебабулачных вырабаў у продажы ёсць свежыя мяса-каўбасныя. Дырэкцыя хлебазавода спадзяецца, што ў калектыве стане меней злодзеяў.

## «Мы -- не рабы»

**Нядаўна члены Свабоднага прафсаюза Полацкага вытворчага аб'яднання «Шкловалакно» правялі двухгадзінны пікет ля прахадной свайго завода.**

Незадаволенасць у актывістаў прафсаюза выклікала кампанія па заключэнню кантрактаў.

-- Гэты працэс нельга назваць добраахвотным,-- паведамілі пікетчыкі,-- бо работнікам недвухсэнсоўна даюць зразумець, што ўсе, хто не аформіць кантракт, будуць звольнены.

## Героі кнігі побач

**Прэзентацыя кнігі гісторыка-дакументальных нарысаў «Ваколіцы Парыжа. Невядомыя старонкі гісторыі Пастаўскага Паазер'я» адбылася 24 верасня ў Паставах.**

Гэта трэцяя па ліку работа гісторыка І. Зямчонка з Варапаева. У кнізе на багатым матэрыяле даследуецца мінулае мясцовасці, паказаны канкрэтныя лёсы людзей, вядомых землякоў.

Кніга выдадзена ў Гродна пры падтрымцы аб'яднання «Ратуша» і пастаўскага прадпрымальніка А.Чалея.

## Жарты выліваюцца ў капейку

Услед за Віцебскам хваля тэлефонных «тэрарыстычных» пагроз абрушылася на Полацк. Апошні раз не ўстаноўлены мужчына патэлефанаваў у гарадздел міліцыі і паведаміў, што праз 20 хвілін будзе ўзарваны Дом гандлю.

Дзве гадзіны пошукаў выніку не далі -- «бомбы» не было. Раней падобным чынам выбуховыя прадметы шукалі ў школах, лазні, на аўтавакзале, швейным аб'яднанні «Мона». На след «жартаўнікоў» міліцыя пакуль не напала, а вось грошай на ўсе гэтыя работы пайшло шмат. Грошы, між іншым, з кішэняў падаткаплацельшчыкаў, нашы з вамі грошы.

# Рэгіянальны экспрэс

## А маглі б жыць

**Першы кастрычніцкі сонечны тыдзень стаў чорным для трох сямей, што жывуць на Пастаўшчыне.**

Маці 19- гадовага хлопца з Пастаў чула, як нехта зваліўся са страхі піціпавярхоўкі па вуліцы Станкевіча. Як высветлілася, гэта быў яе сын. Студэнт тэхнікума загуляў са сваімі сябрамі і спазніўся на аўтобус. Спужаўшыся бацькоў спрабаваў пераначаваць на мансардзе, дзе стаяў ложак, але ў прыцемку сарваўся з вышыні і забіўся. 18-гадовы Алёша Я. з Варапаева быў смяротна траўміраваны начным цягніком. Праз суткі, у ноч з 8 на 9 кастрычніка, пад цягнік Лынтупы -- Віцебск трапіў 30-гадовы мужчына, выратаваць якога не ўдалося.

## Слізкая зладзейская дарожка

**Двойчы сёлета суд Мёрскага раёна разбіраўся з выхадкамі студэнта Віцебскага мастацкага вучылішча Аляксандра Д.**

Гэты хлопец, знаходзячыся ў акадэмічным водпуску, абакраў падвыпітага мужчыну. На першы раз яго пашкадавалі і далі паўтара гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай прыгавора. Але ўжо праз тыдзень пасля суда Аляксандр з сябрам у вёсцы Дворышча ўкралі алюміневы плот і мяшок пустых трохлітровікаў. Зараз хлопцу, які рос без бацькі, прыйдзецца адбываць тры гады ў ПК узмоцненага рэжыму.

Сёлета на заметку міліцыі трапілі яшчэ 48 падлеткаўпарушальнікаў і 14 недобранадзейных сем`яў. Суд разгледзіць яшчэ 6 спраў аб пазбаўленні бацькоўскіх правоў.

*У. Шык*

## Праца без аптымізму

**У прамысловых прадпрыемстваў, як і ў людзей, у жыцці бываюць і светлыя, і чорныя палосы. Пяць год таму назад пагроза банкруцтва ўжо навісала над Глыбоцкім кансервавым заводам.**

Сёлета ў час нарыхтовак і сезона пераапрацоўкі калектыў з 350 работнікаў зноў на мяжы гібелі. Буйнейшае некалі прадпрыемства не мае грошы, каб заплаціць пастаўшчыкам. Закупленых 400 тон зялёнага гарошку і яблыкаў хопіць ненадоўга. Недзе ўзяць крэдыты на закупку гародніны і грыбоў. Не завершаны мантаж халадзільніка ёмістасцю 500 тон.

-- Што будзе далей з заводам, не хочацца нават думаць,-- сказаў пры сустрэчы намеснік дырэктара па камерцыйных пытаннях У. Крываротаў. -- Гады два назад прадукцыя Глыбоцкага кансервавага завода нядрэнна ішла ўглыб Расіі, разлікі былі ў тэрмін. Але ўжо тады разумныя людзі папярэджвалі, што нават на адданеным паўночным рынку з нашымі слоікамі і тарай будзе складана. Як у ваду глядзелі -- так і адбылося.

Ужо сёлета замест глыбоцкай прадукцыі у Расію прыйшла больш танная, у сучаснай прыгожай упакоўцы прадукцыя з Італіі. Шматлікія курсы валют, абавязковы продаж часткі валюты дзяржаве зрабілі дзейнасць Глыбоцкага завода беспрыбытковай і бесперспектыўнай. Завод пастаўлены на калені і нават не мае сродкаў, каб закупіць мазут для кацельні дзіцячага садка. Дзецям, вядома ж, не дадуць гібець мясцовыя ўлады, а хто дапаможа заводу?

Хто, наогул, дапаможа «Віцебскхарчпраму»?

Не ў лепшым становішчы і Глыбоцкі мясакамбінат. Толькі ў першым паўгоддзі страты вядучых прадпрыемстваў -- камбікормавага і малочна-кансервавага камбінатаў -- склалі адпаведна 114,3 і 54,7 млн. рублёў.

Ні працоўныя, ні адміністрацыя, звязаная па руках і нагах загадамі ды дэкрэтамі, у тым не вінавата. Эканамічная палітыка, якую праводзіць урад, разбурае і нішчыць не толькі прадпрыемствы, заводы і калгасы, але і веру людзей у будучыню, у магчымасць жыць з аптымізмам і мець перспектыву.

*У.Шык*

## Памяць аб воінах-земляках

**У канцы лета ў Глыбоцкім парку Перамогі быў урачыста адкрыты помнік тым, хто загінуў у Афганістане і ўдзельнічаў у лакальных канфліктах у мірны час.**

У розных частках свету ў баявых дзеяннях удзельнічалі 108 воінаў-глыбачан. Пяцёра ваеннаслужачых з горада і раёна не вярнуліся дадому з Афганістана.

Скульптурная кампазіцыя на берагу возера ўяўляе сабой двухметровую бронзавую фігуру дэсантніка з аўтаматам, які стаіць сярод валуноў, дзе прарастае пужлівая кветка -- чорны цюльпан. Менавіта такую назву меў самалёт, які ў 80-ыя гады даставіў з Афганістана цынкавыя дамавіны з загінуўшымі.

Над манументам працаваў Аляксандр Козел і малады беларускі скульптар, былы афганец Уладзімір Жбанаў

*У. Шык*



### Дэндрасад сярод лясной пушчы

Нядаўна сярод мясцовай пушчы ва ўрочышчы Вольшчына работнікі Галубіцкага лясніцтва, што ў Глыбоцкім раёне, заклалі дэндрасад. Да таго ж сёлета супрацоўнікі лясніцтва ўзялі пад сваю апеку яшчэ 500 гектараў лясоў, якія перадалі ім гаспадаркі раёна і якія патрабуюць дадатковай рэканструкцыі, ачысткі і новых пасадак. Да слова, майстар-лесаруб Аляксандр Смяхоўскі годна прадставіў нашу краіну на спаборніцтвах у Нарвегіі.

*У. Шайкоў*

## Пакатаўся на трактары першы і апошні раз

Суботнім восеньскім адвячоркам вучань сёмага класа Суражскай СШ (Віцебшчына) вырашыў пакатацца на трактары. Ля вёскі Аўтунекава Віцебскага раёна адбылася аварыя. Не меўшы навыкаў кіравання, ужо на трэцім кіламетры падлетак на МТЗ-80 з прычэпам з`ехаў у кювет і перакуліўся. Хлопчык на хаду вываліўся з кабіны і апынуўся пад трактарам. Выратаваць яго не змаглі.

## Свая зямля не падвядзе

**Яшчэ 28-мю гектарамі зямлі папоўнілася фермерская гаспадарка «Зарэчча», у якой працуюць бацька і сын Лінічы. Зямля выдзелена рашэннем Пастаўскага райвыканкама.**

Агульная плошча гаспадаркі Лінічаў -- 121 гектар. Нядаўна распачата будаўніцтва фермы на 30 галоў.

У вёсцы Бараўкі былы старшы майстар СПТВ Мікалай Лініч пасяліўся спачатку як дачнік. Але так прыглядзіў і ўпадабаў гэтыя мясціны, што ў 1993 годзе на атрыманых 49-ці гектарах зямлі заклаў тут сваю гаспадарку. Зараз бацька з сынам займаюцца зерневымі культурамі, пабудавалі свой млын, склады, зернесушылку, дапамагаюць выжываць мясцовым пенсіянерам. На жаль, такіх моцных фермерскіх гаспадарак, як у Лінічаў, на Пастаўшчыне няшмат. Па розных прычынах 20 фермераў адмовіліся ад пачатай справы, а па Беларусі за дзесяць апошніх гадоў сваю справу на зямлі пакінула 1700 чалавек.

*У. Шытаў*




Фота Ул. Скрабатуна

## Дзевяткі ў дзённіках

Бацькі многіх вучняў Суклінскай СШ, што ў Глыбоцкім раёне, ужо не здзіўляюцца, бачачы ў дзённіках васьмёркі, дзевяткі і дзесяткі. Нават школа ў глыбінцы, дзе займаецца 113 вучняў, пайшла сёлета на эксперымент па апрабацыі ацэнкі ведаў па дзесяцібальнай сістэме. Школу выбралі не выпадкова. Настаўнікі, якія тут працуюць, у большасці маладыя, ініцыятыўныя, прафесійна падрыхтаваныя. На паглыбленым узроўні тут вывучаюць англійскую мову, на павышаным -- матэматыку і гісторыю. Школьны будынак тройчы рэканструяваўся і зараз уяўляе сабой утульны дом з класамі сучаснага ўзроўню. За падрыхтоўку вучэбнай базы і за арганізацыю гарачага харчавання Суклінскую СШ узнагародзілі двума першымі раённымі прэміямі.

## Спыняецца транспарт

У пачатку кастрычніка ў многіх раёнах Віцебшчыны не хадзіў гарадскі транспарт. Нават міжгародняя рэйсы былі адменены. Прычына адна -- адсутнасць паліва. Праўда, сітуацыя праз два-тры дні палепшылася, бо на «носе» былі выбары. Дарэчы, на падвозку выбаршчыкаў на выбарчыя ўчасткі бензіну хапала. Каб хоць неяк падахвоціць людзей ісці галасаваць, у Наваполацку ўключылі ацяпленне. Пасля выбараў «ільготу» гэту адмянілі, а ў дваццатых чыслах зноў стаў транспарт. Яно і зразумела, 29-га -- адбыўся другі тур выбараў, быў патрэбен бензін... Усё, што адбываецца ў апошнія гады ў сельскай гаспадарцы, эканоміцы краіны наогул, напамінае плыўца, які, патанаючы, раз-пораз выныравае, хапае паветра і, як сякера, зноў ідзе на дно. Прыйдзе час, калі над нашай эканомікай-тапельцам у сённяшніх умовах пойдуць бурбалкі...

*С. Яўгенаў*

## За тэлефон няма чым плаціць

**У жніўні ў Докшыцкім раёне за няўплату ад тэлефоннай сеткі адключаны 63 абаненты.**

Ужо другі год гэту крайнюю меру прыходзіцца прымяняць да 50 і больш прыватнікаў. І калі з насельніцтва яшчэ так-сяк удаецца спагнаць аплату, то з дзяржпрадпрыемствамі адна бяда. Доўг перад сувязістамі маюць у раёне больш за 30 юрыдычных асоб, якія павінны 5 млн. 205 тыс. рублёў. Каб не выдаткі з абласнога цэнтра, ужо сёння докшыцкія сувязісты сядзелі б без заработнай платы.

*У. Шык*

##  Правінцыйныя разборкі

**Вечарам у дом галоўнага інспектара талочынскай падатковай інспекцыі ўварваўся невядомы мужчына ў масцы і пачаў біць яго цяжкім прадметам па галаве. Потым злачынца прайшоўся па целе пацярпелага нажом і знік.**

З кватэры інспектара нічога не ўзята. У канцы лета на КПП у Гарадоцкім раёне быў жорстка збіты інспектар Віцебскай мытні, які адмовіўся прапусціць груз без суправаджальных дакументаў. «Крутога» затрымалі і ўзбудзілі крымінальную справу. Сюжэты баевікоў, якія не сходзяць з экранаў тэлевізараў, не заўсёды апраўдваюць сябе ў жыцці. У большасці выпадкаў за злачынства прыходзіцца плаціць уласнай свабодай.

## Рэўнасць да дабра не даводзіць

**Вестка аб забойстве 45--гадовага старшыні калгаса «ХХ-ты з`езд КПСС» Міхаіла Краўчанкі даляцела да самых аддаленых куткоў Бешанковіцкага раёна.**

У нядзельны кастрычніцкі вечар каля сваёй дачы ў вёсцы Старыя Рончыцы М. Краўчанка ўступіў у бойку з 27-гадовым жывёлаводам той жа гаспадаркі. Сілы аказаліся няроўнымі: маладзейшы забіў старшыню. Супрацоўнікі міліцыі неахвотна гавораць пра здарэнне, але ўсё больш сведчанняў аб тым, што смяротная сутычка мужчын адбылася з-за рэўнасці.

## Разлік на маладняк

**Цяжка прыйшлося каровам нямецкай пароды, якія сваёй вагой у 700 кг. больш нагадваюць адкормленых бычкоў, у саўгасе «Азярцы» Глыбоцкага раёна.** За лета многія з іх так і не набралі ні вагі, ні далі адпаведныя надоі, якія пры спрыяльных умовах дасягаюць да 5 тон малака ў год. У саўгасе зараз робяць разлік на маладняк. На ферме Камішчына стварылі чатыры групы раздою, а ўсяго статак папоўніўся амаль двумя сотнямі першацёлак.

## Сам сябе пакараў

Сёння на пражыццё кожны зарабляе па-свойму. Пасяліўся нядаўна ў Паставах армянін і прыдумаў, як яму здавалася, ідэальны варыянт абагачэння. У пачатку года ён на добрую суму застрахаваў у «Белдзяржстраху» сваю маёмасць на сяле. Затым з сяброўкай пераехаў у Паставы, зняў кватэру. Час ад часу наведваўся на вёску. У адзін з прыездаў разыграў перад вяскоўцамі «спектакль»: яго абакралі. Толькі ў ходзе следства высветлілася, што хітры армянін хацеў, каб Дзяржстрах выплаціў яму 1297400 рублёў. Пасля суда камбінатар можа пазбавіцца маёмасці ці нават свабоды. Праўду кажуць: ніхто не зробіць горш, як сам сабе.

*Настальгія*

# Няма таго, што перш было

Добра памятаю, як пасля развалу Савецкага Саюза, пры кіраванні Станіслава Станіслававіча Шушкевіча, ў 1994 годзе беларусы, нарэшце, займелі магчымасць вольна, без кіслар允ной, камуністычнай «падушкі», дыхаць і жыць у сваёй краіне. Па радыё прапала бясконцая ідэалагічная траскатня, пра ўсё, што адбывался ў краіне, С. Шушкевіч гаварыў шчыра, праўдзіва, прызнаючы свае памылкі. Не біў кулаком у грудзі, нічога надта не абяцаў, але мы, простыя людзі, адчулі палёгку. Колькі глыбачан змаглі адкрыць свае справы ў той час, адчуць сябе гаспадарамі! Іх бізнес квітнеў тады, а не на ладан дыхаў. Залатыя рэчы скуплялі не баючыся. Чым не зручна: няма ў мяне, да прыкладу, грошай, але ёсць пару залатых завушніц, якія мне за сваё жыццё не знасіць. Пайшла і прадала. Праз тыдзень заробак атрымала, пайшла -- сваё выкупіла. А памятаеце, як на глыбоцкай «хітрушцы», што ля кнігарні была, нікога не баючыся, стаялі хлопцы з таблічкамі на грудзях: «куплю долары, маркі, фунты»? Зарабіў потам, мазалём рубель, абмяняў на долары і паклаў на «чорны» дзень. А ўспомніце: ці ж скакаў так курс долара, як сёння? Гады два стаяў на месцы, як укопаны. У тэлефонную трубку пры размовах не дыхаў ніхто трэці. Нікому ў галаву не прыходзіла ісці на мітынгі, пікеты. Не ішлі, бо не было патрэбы. Выдаваліся кніжкі на роднай мове. Нават робат на тэлефоннай станцыі- адказваў (і да цяперашняга адказвае) на роднай мове: «Набраны Вамі нумар не існуе». У людзей раптоўна ажыло жаданне працаваць. Хто ў 1994-ым чуў пра такія падаткі, якія сёння «прасуюць» усіх прыватнікаў? Знік страх, што заўтра не будзе чаго есці. Людзі змяніліся, бо адчулі веру ў лепшае. Не ўсе, вядома, зразумелі тую свабоду, але і сёння той-сёй выдыхае з сумам: «Каб намі Шушкёвіч кіраваў усе гэтыя гады, мы б ужо і Польшч абагналі». Каб жа... У 1994-ым мала хто ўсведамляў, што мы шырокім крокам рушылі наперад, у шчаслівае заўтра. Рушылі з разумным чалавекам, які будучы выхадцам з народу, добра ведаў, чаго хоча гэты народ і чаго заслугоўвае.

Падзьмуў вецер з іншага боку. Як прыніжаюць да цяперашняга С.Шушкевіча яго сённяшнія палітычныя апаненты! Прыніжаюць, не ўяўляючы, што яны бруду пад нагой гэтага чалавека не варты.

*Ваша чытачка*




## «Бітвы» за ўраджай без ахвяр не абходзяцца

**Гучала, лілася музыка, траскатнёй аддавалі віншавальна-ўрачыстыя выступленні афіцыйных асоб на паказушных «Дажынках -- 2000». Ніхто не казаў з вялікіх трыбун, што на момант «свята», да прыкладу, у Мёрскім раёне не было ўбрана 1660 гектараў збажыны, амаль тысяча ў Глыбоцкім раёне.**

А калі палічыць па краіне, то не да свята было хлебаробам. У гуках «пераможных» фанфар гублялася сумная сельскагаспадарчая статыстыка -- «бітва» за ўраджай не абышлася і сёлета без ахвяр. У Віцебскай вобласці загінулі чатыры хлебаробы, некалькі чалавек засталіся калекамі. Сярод двух загінуўшых і трох цяжкатраўміраваных памочнікаў камбайнёраў зусім маладыя людзі ва ўзросце ад 15 да 24 год. Наўрад паклапоціцца дзяржава аб сем`ях загінуўшых, наўрад дапаможа хворым і расчараваным скалечаным.

Та таго ж, спецыялісты абласной інспекцыі працы адзначаюць, што сёлета зафіксавана 5 смяротных выпадкаў вяскоўцаў на працы па прычыне дрэннага стану здароўя. Агульны сёлетні лік ахвяр калгаснага ладу -- дванаццаць чалавек.

*У. Шайкоў*

Галасы стагоддзя

# Мінулы век у памяці сучаснікаў

**Школа ў жыцці чалавека адыграе вельмі важную ролю не толькі таму, што дапамагае асвоіць асновы навук, але і фарміруе яго светапогляд, адносіны да жыцця, да людзей, выхоўвае маральна. Так лічыць былая настаўніца СШ№2 г. Глыбокае, зараз жыхарка Бабруйска, _Тамара Міхалаеўна Лагун_ (у дзявоцтве Барсук)**

Асаблівы ўплыў робіць пачатковая школа. У пачатковую школу я пайшла ў 1935 годзе ва ўзросце 6 год. Гэта было пры польскай уладзе. Нас шасцігодак вучылі польскай мове, бо яна была дзяржаўнай. Вучыла нас Ядвіга Персцувна, па нацыянальнасці полька. Яна не дазваляла нам размаўляць на беларускай мове нават на перапынках. **У 1939 годзе з прыходам савецкай арміі да нас у школу прыйшоў малады настаўнік Віталь Кажан, беларус. Выкладаць пачаў на беларускай мове.** Вучыцца стала значна лягчэй, бо ўсё было зразумелым. Настаўнік вельмі любіў сваіх вучняў. Заўсёды ветлівы, стрыманы, цікава тлумачыў матэрыял, стараўся даць усебаковае развіццё. Памятаю, як мы ў першыню пачулі голас дыктара, музыку па радыё. У той час радыёпрыёмнікаў на вёсцы не было, а ў яго быў радыёпрыёмнік з навушнікамі. Мы па чарзе падыходзілі да настаўніка, і ён прыкладваў нам навушнікі. Колькі было здзіўлення і радасці адначасова!

Ён і выхаваў у нас любоў да сваёй Радзімы, да роднай мовы. Віталь Кажан хадзіў з намі на экскурсіі, чытаў вершы і творы пісьменнікаў на беларускай мове. За гэту любоў мы, ужо будучы студэнтамі ці вучнямі старэйшых класаў, папляціліся зняволеннем і катаргай.

Праз многія гады наш любімы настаўнік, які цяпер жыве ў ЗША, знайшоў нас і прыслаў свой «голас». Прыемна, што ён памятае нас, хаця прайшло ўжо больш 60 год! Ён успамінае сваіх чатырох вучаніц. Гэта так, мы вучыліся ў яго. Барсук Лена пасля вяртання з ГУЛАГу, памерла ў сваёй роднай вёсцы Барсукі. Яе сястра Ларыса назаўсёды засталася ў Казахстане, дзе і памерла. Краснадубская Людміла жыве ў Казахстане, вельмі хворая.

**А зараз мы прапануем Вашай увазе «голас» Віталя Кажана, які жыве ў ЗША.**

«У верасні 1939 года, калі савецкая армія займала Заходнюю Беларусь, я вярнуўся дамоў з польскай арміі. На чыгуначнай станцыі ў Крулеўшчыне, каля Глыбокага, я атрымаў ад маладога савецкага афіцэра такую параду: «Вярнуўшыся дамоў не сядзі, а старайся адразу ўладкавацца на працу, бо інакш можа быць кепска».

Параду паслухаў і ўжо на другі тыдзень пасля звароту я стаў настаўнікам пачатковай школы ў вёсцы Барсукі Шаркоўшчынскага раёна. Вучыць было не так проста, бо ніякіх прыладаў, падручнікаў, сшыткаў не было. Вучы на якой хочаш мове: беларускай, польскай, расейскай. Безумоўна, я пачаў вучыць на беларускай. У гэтым мне шмат дапамог вядомы аграном-навуковец Янка Пачопка, які надзяліў мяне беларускімі кніжкамі ды добрымі парадамі.

Добры пачатак зрабіў тое, што мая школка аказалася найлепшай пачатковай у раёне. Трэба сказаць што раён школьны быў вельмі добры, бо і бацькі і іх дзеці дбалі аб школе. Пасля заканчэння гэтай школкі вучні ішлі ў сяміgодку ў Шкунціках, што ў Шаркоўшчынскім раёне.

Пасля заканчэння вайны я апынуўся ў Злучаных Штатах Амерыкі. Зразумела, я вёў перапіску са сваімі крэўнымі і знаёмымі ў Беларусі. За гэту перапіску некаторыя пацярпелі ад савецкай улады, а асабліва мой родны брат, які быў звольнены з пасады галоўнага бухгалтара ў банку. Я не забываўся і пра сваіх вучняў з Барсукоў. Даведаўся, што чатыры мае былыя вучаніцы, сёстры Ларыса і Лена Барсук, Тамара Барсук і Люся Краснадубская, пасля заканчэння сямігодкі паступілі ў настаўніцкае вучылішча ў Глыбокім. Дырэктарам гэтага вучылішча быў прысланы з Расеі малаадукаваны і малакультурны партыец, які нават забараняў ужываць беларускую мову. Гэта прывяло да паўстання падпольнай арганізацыі «Саюза Беларускіх Патрыётаў». Да гэтага саюзу належалі і мае чатыры былыя вучаніцы. Як вядома, гэты саюз КДБ раскрыла пры дапамозе сваіх шпіёнаў, да якіх адносіўся **Алег Стахоўскі**, сын праваслаўнага святара, сям`я якога мне была добра вядомая.

Усіх сяброў "Саюза Беларускіх патрыётаў" судзіў Ваенны Трыбунал. Зразумела, у ім не было ні аднаго беларуса. Гэтыя малалетнія здольныя цудоўныя дзяўчынкі былі засуджаны на многія гады жахлівага камуністычнага ГУЛАГу. З гэтых маіх чатырох прыгажунь на сёння ў жывых толькі дзве.

Кароткая гісторыя гэтага здзеку над беларускай моладдзю, ды не толькі над моладдзю, органамі расейскага імперыялізму, не аднойчы наводзіць на думку: чаму расейцы забыліся пра той кавалак сваёй гісторыі, калі татара-манголы здзекаваліся над імі?»

## Будаўнікі застаюцца без працы

Да сёлетняга года сярод пятнаццаці структурных падраздзяленняў трэста «Полацксельбуд» адным з лепшых быў калектыў Мёрскай ПМК --55. Але зараз аб`ём падрадных работ рэзка знізіўся, бо на вёсцы жыллё амаль не будуецца. Да восені паспелі здаць навасёлам пяць хат у калгасе «Новы шлях», на чарзе на здачу яшчэ чатыры аднакватэрныя дамы. З-за адсутнасці фінансавання спынены работы па рэканструкцыі каналізацыйнай сеткі і фізкультурна-аздараўленчага комплекса ў Мёрах. Не ўдаецца завяршыць работы і на ўзвядзенні 39-кватэрнага маладзёжнага кааператыва. У цэлым па трэсце «Полацксельбуд» за 8 месяцаў бягучага года аб`ём падрадных работ склаў толькі 67,4% да ўзроўню мінулага года.

*У. Ш.*

## Сам сабе аграном

Гэта лета, у адрозненне ад мінулага, было не вельмі спрыяльным для вырошчвання некаторых гароднінных культур. Напрыклад, летась мне вельмі пашанцавала на агуркі, але больш -- на кавуны, якіх вырасла і саспела ажно 21.

Сёлета, нечакана, паспяхова завяршыўся для мяне яшчэ адзін «эксперымент». Вясной, перакопваючы агарод, знайшоў некалькі бульбін з мінулагодняга ўраджаю, якія ўдала перазімавалі і ўжо пусціліся ў рост. Не прападаць жа дабру! Перасадзіў на новае месца. У канцы чэрвеня-пачатку ліпеня меў ранні ўраджай свежай бульбы.

І тут у мяне ўзнікла ідэя: што будзе, калі каліўе бульбоўніка не выкідваць на сметнік, а пасадзіць наноў? На карэньчыках жа засталіся яшчэ дробныя, велічынёй з гарошыну, бульбінкі.

Так і зрабіў. Закапаў, паліў вадой. Каліўе прыжылося, бо лета было вільготнае.

Здзіўленню майму не было канца, калі ў пачатку верасня, адкапаўшы некалькі такіх кустоў, сабраў з кожнага не менш дзясятка ладных бульбін.

*Т. Крук*

